

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a
Цана паза Нямеччынай: ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банкавае конто: Verlag „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 37 (267) — Нядзеля 11 верасьня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Наступ супраць беларускай эміграцыі

Толькі нядаўна папала ў нашую Рэдакцыю восем чарговых нумароў бальшавіцкай шматтыражкі «За вяртаньне на радзіму» ў беларускай мове, воргану аднайменнага камітэту, што знаходзіцца ў усходнім Бэрліне і займаецца агітацыяй сярод эміграцыяў з Савецкага Саюзу за паварот на бацькаўшчыну. Як ведама, «Комитет за возвращение на родину» пачаў дзеіць у канцы сакавіка сёлета. У красавіку выйшаў аднайменны ворган гэтага камітэту ў расейскай мове і, як мы цяпер даведаліся, адначасна, у тым-жа красавіку пачаў выходзіць гэты-ж ворган і ў беларускай мове, будучы дасло́ўным перакладам расейскага варыянту, за выключэньнем зьмешчаных у ім вершаў, то́лькі загалоўкі якіх пададзены пабеларуску, а сам тэкст, відаць з прычыны адсутнасьці ў Бэрліне беларускага перакладальніка, друкуецца парасейску.

Тое, што бальшавіцкі камітэт у сваей прапагандзе сярод палітычных эміграцыяў з Усходу, апрача расейскай мовы, пачаў адначасна паслугоўвацца й беларускай мовай, мае сваю нядвузначную вымову. Характэрна, што дагэтуль, на колькі нам ведама, беларуская мова зьяўляецца адзінай нерасейскай мовай, у якой усходнябэрлінскі камітэт распачаў весьці сваю акцыю. Бо вось у расейскім выданьні «За возвращение на родину», толькі ў 6 нумары за ліпень сёлета, знаходзім рэдакцыйную зацемку наступнага зьместу: «Камітэт «За возвращение на родину» зьвяртаецца да грамадзкіх арганізацыяў раду рэспублік Савецкага Саюзу з просьбай ужыцьцявіць выпуск выдаванай Камітэтам газэты на іх родных мовах. Ужо атрыманы пазытыўны адказ з Украінскай, Латыскай і Літоўскай ССР». Да гэтага часу, аднак, газэта на мовах пералічаных рэспублік яшчэ не пачала выходзіць, тады калі ў беларускай мове паяўляецца ўжо пяты месяц.

У Саветах, як ведама, нічога ня робіцца прыпадкова. Дык і дассюлешняе выдаваньне воргану ўсходнябэрлінскага камітэту, адначасна з расейскай, толькі ў баларускай мове бясспрэчна было выклікана нейкімі спэцыяльнымі меркаваньнямі гэтага комітэту. Відаць, якраз беларуская эміграцыя зьяўляецца для бальшавікоў асабліва небясьпечнай, што былі змушаныя супраць яе ськіваваць галоўнае астрыё свайго наступу. І гэта не павінна нам выдавацца чымсьці дзіўным, калі ўзяць на ўвагу факт, што беларуская палітычная эміграцыя, ня гледзячы на сваю колькасную сьціпласьць, выкліканую спэцыяльнымі прычынамі ваеннага парадку, праявіла асаблівую актыўнасьць і творчую здольнасьць як у сваім нутраным жыцьці, гэтак і ў сваей дзейнасьці навонкі, а асабліва сваёй удзельнай вагой у псыхалягічнай вайне з камунізмам.

У 17 нумары «Бацькаўшчыны» за 24 красавіка сёлета, у артыкуле «Новы савецкі наступ супраць эміграцыяў» мы папераджалі й перасьцерагалі, што бальшавіцкая акцыя, ведзеная ўсходнябэрлінскім камітэтам, выльлецца галоўным чынам у пашырэньні бальшавіцкай дывэрсіі сярод эмігрантаў, у правакацыях і шантажаваньні іх з мэтаю іх маральна стэрарызаваць, абясшкодзіць і скампрамітаваць перад Захадмам. Мы там пісалі: «Што-ж датычыцца нашай беларускай эміграцыі, дык мы пэўныя, што яна ня дасца ўзяцца на вудачку і гэтай новай бальшавіцкай дывэрсіі». Гэтую самую ўпэўненасьць мы паўтараем і сяньня.

Ня гледзячы, аднак, на гэта, на ўзмоцнены бальшавіцкі наступ супраць беларускай эміграцыі і вырозьненьне яе асаблівай увагай сярод эміграцыяў іншых, мы павінны адказаць яшчэ большай асьцярожнасьцю і халоднымі нэрвамі, каб не паддацца ніякім правакацыям, а з другога боку — яшчэ шчыльней згуртавацца пад нашым нацыянальным сьцягам і яшчэ больш актыўна павесьці змаганьне супраць бальшавізму.

Жменю ўвагі варта прысьвяціць аднаму із спосабаў дывэрсыйнай акцыі й прапаганды бальшавікоў сярод эміграцыяў, якім ёсьць умелае заігрываньне на нацыянальных пачуцьцях і выкарыстоўваньне іх у якасьці найбольш войстрага аружжа. Як ведама, у Савецкім Саюзе праводзіцца прымусовая русыфікацыя нерасейскіх народаў з мэтаю растапіць іх у расейскім моры і зьнішчыць, як нацыі, якія праявілі й праяўляюць асаблівую варожасьць да бальшавіцкай сыстэмы. Гэтая русыфікацыя й нішчэньне нацыянальнай патэнцыі нерасейскіх народаў пасьлядоўна там праводзіцца ўвесь час. Але вынікі гэтай акцыі дагэтуль мізэрныя і толькі вонкавыя. Нацыянальныя патэнцыі нерасейскіх народаў зьяўляюцца і сяньня найбольшай сярод іх рухаючай сілай і найбольшай прычынай варожасьці да бальшавізму. І таму бальшавікі, калі хочаць здабыць падтрыманьне з боку гэтых народаў у правядзеньні тых ці іншых сваіх мерапрыемстваў або хоць іхную нэўтральнасьць, яны часова адступаюць і заігрываюць на іхных нацыянальных пачуцьцях. Гэтак, як ведама, было ў вапошнюю вайну.

Гэтую фарызэйскую тактыку павялі яны і цяпер і загаварылі да Беларусаў на эміграцыі ў іхнай роднай беларускай мове з самага пачатку сваей акцыі. Бальшавікі вельмі добра арыентуюцца, што галоўная ненавісьць да бальшавікоў сярод беларускай эміграцыі выклікаецца перадусім іхнай русыфікацыйнай акцыяй. Таму, зьвяртаючыся да беларускіх эмігрантаў пабеларуску, уважалі за патрэбнае гэткім спосабам знэўтралізаваць сярод іх антырусыфікацыйныя настроі.

Трэба згадзіцца, што гэткая тактыка Крэмля ня дурная. і ў наіўнасьці палітычнай бальшавіцкіх верхаводаў западозрыць тут нельга. Але як-жа рэагуюць на ўсё гэта тыя прыватныя амэрыканскія колы, якія ўзяліся за само па сабе прыгожае заданьне — прыйсьці з маральнай і матарыяльнай дапамогай эміграцыям у іхным змаганьні за вызваленьне сваіх народаў ад бальшавізму? Маем на думцы Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму. Вось-жа гэты Камітэт стараецца выкарыстаць усякія аргумэнты ў псыхалягічнай вайне з бальшавізмам, за выключэньнем аднаго з наймацнейшых і найэфэктоўнейшых, якім ёсьць нацыянальнае перасьледваньне нерасейскіх народаў і іхны супраціў нацыянальнай няволі. Калі-ж часамі й згаджаецца на паслугоўваньне гэтым аргумэнтам супрацоўнічаючым зь ім эміграцыям, дык толькі ў сілу таго, што гэтая згода бывае неадхільнай перадумовай гэтага супрацоўніцтва, а не таму, што нацыянальнае пытаньне паняволеных народаў магло-б аказацца найлепшай зброяй антыбальшавіцкага змаганьня. Гэтую войструю зброю заходнія палітычныя колы шчодра ахвяроўваюць бальшавіком.

На фоне ўсяго гэтага як-жа вымоўным робіцца наступны факт. Мы нядаўна даведаліся з зусім пэўных жаролаў, што амэрыканскае кіраўніцтва радыястанцыі «Вызваленьне» адкідае, як правіла, усе скрыпты, у якіх гаворыцца аб русыфікацыі бальшавікамі Беларусі.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Чаму нас не разумеюць?

Пры кажнай нагодзе мы любім падкрэсьліваць, што пакуль мы знаходзімся на эміграцыі, адным з нашых сьвятых абавязкаў зьяўляецца здабываньне як найбольшай колькасьці прыхільнікаў і сымпатыкаў нашае вызвольнае справы ды наагул прыяцеляў. Мы ніколі ня супраць таксама і пахваліцца сваімі ўдачамі на гэтым адрэзку.

Тым ня менш, час ад часу чуюцца сярод нас галасы, што тут, на Захадзе, асабліва масы, часта не разумеюць нас, ня лічацца з нашымі імкненьнямі, а то й зусім варожа ставяцца да іх. Чуюцца скаргі, што заходняе грамадзтва зусім не праймаецца зьняволеньнем чацьвертае часткі насельніцтва зямной кулі ды паранейшаму жыве, гуляе, весяліцца перад собскай нямінучай загубай. А пры ўсім гэтым, кажуць, яна, дадаюцца такія акрэсьленьні, як матарыялістыя, дэкадэнты, гнілыя мяшчане й г. д. Часамі гэтыя эпітэты мала чым розьняцца ад савецкіх, скіроўваных у бок таго-ж Захаду. «Імбы пяток ці дзясяток гадоў савецкае ўлады, тады-б яны мо крыху ачунялі й нас-бы зразумелі», — чуюцца рэдчас нашыя пажаданьні.

Не ўваходзячы ў сутнасьць такіх пажаданьняў і не разьбіраючыся, ці яны, калі-б зьбыліся, дапамаглі-б каму-небудзь, паспрабуем сяньня кароткa кінуць вокам на пытаньне, чаму тут на Захадзе нам не заўсёды ўдаецца здабыць сымпатыю й прыхільнасьць як для нас самых, так і для нашае справы.

Пачнем ад прыкладу. Пазнаёміўшыся зь нейкім, скажам, Ангельцам ці Бэльгійцам, наш эмігрант раней ці пазьней пачуе ад яго пытаньне: "Ці думаеце калі-небудзь ехаць дадому? Якім чынам?" Ясна, эмігрант адказвае адразу, што дадому паедзе тады, як у наступнай вайне будуць разьбітыя бальшавікі. «У наступнай вайне?» — зьдзіўлена й з затоенай трывогай пытае «гаспадар». «Так, у наступнай вайне, якая, дасьць Бог, хутка пачнецца», — самаупэўнена прадўжае эмігрант.

І аб чым-жа будзе думаць у часе гэтае гутаркі той Бэльгіец, Ангелец ці іншы? Ясна, ён ня супраць, каб бальшавікоў разьбілі, але... трэба-ж тады будзе ваяваць... Ён шчасьліва перажыў апошнюю вайну, ён мае свой дом, сям'ю, працу...Наступная вайна?... Ды можа запраўды атамная?...

З-за ветлівасьці ён паспачувае эмігранту й выкажа надзею, што верыць у ягоны хуткі паварот і ў вызваленьне ягонай бацькаўшчыны. Але ў ягоную сьведамасьць западае першы цень, хоць і скрытай, няпрыхільнасьці да такога «аматара» вайны.

Часам эмігрант пачынае даводзіць, што савецкі рэжым кепскі, што там няма свабоды, што бальшавікі зьнішчаюць людзей і г. д., і што вайна патрэбная. І тут «гаспадар» згодзіцца з эмігрантам ува ўсім аж да моманту, дзе падае слова «вайна». Нам-жа гэта незразумела.

І вось каб зразумець такіх пацыфістых, уявім сабе на момант, што мы жывем ужо ў вольнай і незалежнай Беларусі. Жыцьцё мы ўладзілі зусім нядрэнна. Праўда, на Захадзе паявілася загроза нейкага -ізму, але-ж нашая прэса й нашыя палітыкі запэўніваюць нас, што з гэтым -ізмам можна суіснаваць. Дык на якога ліха тады нейкая вайна, ці-ж мала крыві да гэтага пралілося? Калі не дасло́ўна так, дык прынамсі вельмі вельмі падобна разважаў-бы звычайны жыхар незалежнай Беларусі, маючы падобную прэсу й палітыку. Дык ці маем мы права крыўдзіцца на простага заходняга грамадзяніна, калі ён разважае якраз у такі спосаб?

Страх перад вайной і неахвота да яе зусім зразумелыя. А дзеля таго ў нашых дачыненьнях зь людзьмі ў заходніх краінах, калі мы хочам мець прыяцеляў, гаворачы на тэму вайны, трэба быць таксама тактоўным і асьцярожным, бо ў іншым выпадку замест сымпатыі выклічам да сябе няпрыхільнасьць.

Зусім іншая рэч выясьняць, але заўсёды салідна аргумэнтуючы, што хоць як-бы мы ні хацелі вайны, дык усёадно Саветы да яе рыхтуюцца, і раней ці пазьней, калі Захад ня будзе належна моцны і ўзброены, яны нападуць. А гэта ўжо ня тое, што сказаць: «Яна, дасьць Бог, хутка пачнецца».

Нельга таксама забывацца, што адкрытае выказваньне нашых надзеяў на будучую вайну ды жаданьне яе, дае матар'ял у рукі камуністых для прадстаўляньня нас у вачох заходняга грамадзтва, як «падпальшчыкаў» вайны ды «ненавісьнікаў чалавецтва».

На заканчэньне трэба дадаць, што, калі мы можам і павінны разумець і апраўдваць звычайнага грамадзяніна, дык гэта ў ніякім выпадку ня тычыцца тых адказных праваднікоў, у руках якіх спачывае будучыня краеў і народаў. Яны прынамся мусілі-б разумець, што ў нашыя часы ня можа быць двух сьветаў у ваднэм. І якраз яны мусілі-б бачыць крыху далей за таго грамадзяніна, які маючы сваю маленькую гаспадарку, ня бачыць далей за свой панадворак.

**А. Галубіцкі**

# Пераўзгадаваць ваўка нельга

Жэнэўская канфэрэнцыя «Чатырох Вялікіх» і нядаўнае заяўленьне Прэзыдэнта Айзэнгаўэра, які сказаў, што ён верыць, што Жэнэўская канфэрэнцыя зьяўляецца вялікім поступам у кірунку дасягненьня міру, «абаснаванага на справядлівасьці і бясьпечнасьці», будуць прадметам увагі ў гэтым артыкуле. У далейшым ён заявіў, што ЗША зьяўляюцца ў стане «крыжовага паходу за мір», але адначасна падчыркнуў, што Амэрыка ніколі ня зможа акцэптаваць тых несправядлівасьцяў, якія дзеюцца людзям і нацыям з боку Савецкага Саюзу. «Найбольш шчырае жаданьне міру ня мае права апраўдаць і ўвекавечніць крыўдаў, якія спрычыніў Савецкі Саюз шматлікім нацыям, бо інакшай гісторыя гэта асудзіла як зраду ідэялам свабоды чалавека», — заявіў ён.

Гэныя надзвычай прыгожыя словы зьяўляюцца вялікай духовай падтрымкай для народаў, якія ўжо на працягу дзесяткаў гадоў змагаюцца за рэалізацыю ідэялу свабоды чалавека, так ганебна патаптанага Савецкім Саюзам. Пры гэтай нагодзе, аднак, хочацца зьвярнуць увагу таксама і на пэўныя адмоўныя бакі гэтага паходу за мір, які запачаткаваўся на Жэнэўскай канфэрэнцыі, у сэнсе якраз эфэктоўнасьці гэтага змаганьня за мір і свабоду адзінкі і народаў. Гэтае апошняе вымагае некаторых паясьненьняў.

Нікому хіба не зьяўляецца тайніцай, што савецкі рэжым апошнім часам апынуўся ў даволі вялікіх цяжкасьцях нутранага характару. Гэныя цяжкасьці заключаліся ў наступным: змаганьне за ўладу паміж паасобнымі клікамі ў нутры камуністычнай партыі Сав. Саюзу, няўдачы ў галіне рэарганізацыі аграрнай гаспадаркі, растучае незадаваленьне насельніцтва з прычыны недахопу прадуктаў першай патрэбы, узрастаючы пасыўны супраціў у нерасейскіх рэспубліках і цяжкасьці так эканамічнага, як і палітычнага характару ў т. зв. сатэлітных дзяржавах.

Савецкая прапаганда з аднаго боку аб няўхільнай амэрыканскай агрэсіі і галасы эміграцыі, якія даходзілі на хвалях этэру да насельніцтва Сав. Саюзу — з другога падтрымоўвалі надзею,аб эвэнтуальным вызваленьні. Нельга забывацца аб тым, што такі канфлікт эвэнтуальна праўдападобны. У кажнай таталітарнай сыстэме можна падзяліць жыхароў на тры групы. Першая, якая мае ўладу ў руках і ўсе тэхнічныя сродкі здушыць усялякі супраціў незадаволеных уладай. Другая група, найбольш шматлікая, вычэкваючых. Яна ня ўключаецца поўнасьцю ў супрацоўніцтва з пануючым рэжымам, але і не праяўляе ніякага супраціву. Гэная група прыглядаецца палітычнай сытуацыі. У залежнасьці ад таго, ці яна спрыяючая ці не існуючаму рэжыму, гэтая група сьхіляецца ў бок супрацоўніцтва або супраціву. Трэйцяя група — гэта выразнага пасыўнага або й актыўнага супраціву. Савецкі Саюз не зьяўляецца вынятакам із гэтага агульнага правіла. У пасьляваенны пэрыяд часу і асабліва пасьля сьмерці Сталіна гэтая першая група апынулася ў даволі цяжкім палажэньні. Цяжкасьці былі асабліва наяўнымі сярод сатэлітных дзяржаваў, якія страцілі сувэрэннасьць толькі ў пэрыяд апошняй сусьветнай вайны. Новыя правадыры партыі гарачкава шукалі сяродкаў, каб умацаваць свае пазыцыі коштам вычэкваючых і коштам аслабленьня групы выразнага рэзыстансу.

Нельга тады дзівіцца, што Хрушчоў, вярнуўшыся із Жэнэўскай канфэрэнцыі, заявіў, што яна была «ўдачай для савецкай палітыкі міру». Бальшавіком якраз больш і ня было патрэба, як апублікаваць і шырака камэнтаваць разбройваюча шчырыя запэўненьні Амэрыканцаў і іншых дэлегацыяў аб тым, што яны ніколі не нападуць на Сав. Саюз. Далейшыя вымены тайніцамі атамнай энэргіі, адпаведна камэнтаваныя савецкай прэсай, былі наяўным доказам для паняволеных народаў, што на вайну абсалютна нельга спадзявацца. У выпадку-ж. калі-б яна была справакавана Сав. Саюзам, дык пры наяўнасьці выраўнаньня сілаў у сэнсе атамнай зброі няма ніякай надзеі на перамогу дэмакратычнага сьвету над бальшавізмам. Я больш чымся сумляваюся, што ў сяньняшняй сытуацыі савецкая прэса падасьць да ведама апошняя заяўленьні прэзыдэнта Айзэнгаўэра.

Тыя надзеі, што бальшавікі, калі пераканаюцца ў шчырасьці імкненьняў дэмакратычнага сьвету да міру, у чым мы ня сумляваемся, адхіляць бальшавікоў ад іх мэты сусьветнага панаваньня, абсалютна неабаснаваныя. Бальшавікі дасканальна ведаюць і вераць у гэтую шчырасьць. Яны маюць, ці прынамся мелі высока пастаўленых у ўрадавых кругох дэмакратычных дзяржаў сваіх інфарматараў, каб ведаць аб запраўдных мірных намерах Захаду. Ды зрэштай ім хопіць чытаць дэмакратычную прэсу, якая зьяўляецца люстраным адбіцьцём настрояў шырокіх масаў Захаду, чаго абсалютна нельга сказаць аб прэсе таталітарных дзяржаваў.

Такім чынам заяўленьне прэзыдэнта Айзэнгаўэра, што калі страх Сав. Саюзу перад агрэсіяй можа «выясьніць, але не апраўдаць» іхніх праступстваў адносна шматлікіх народаў, памылковае ў тым сэньсе, што яны ня толькі не апраўдваюцца, але й не паясьняюцца. Калі-ж аднак заходнія палітыкі спадзяюцца, што іх шчырае імкненьне да міру раптам, як дотыкам магічнай палачкі, зьменіць савецкага ваўка ў мірную авечку, дык яны глыбака памыляюцца, і будаваньне далейшых суадносінаў із Сав. Саюзам на хвальшывых асновах можа аказацца фатальным ня толькі для мільёнаў паняволеных, але й для заходніх дэмакрацыяў.

Рэасумуючы эфэкт Жэнэўскай канфэрэнцыі трэба адцеміць, што яна ўзмоцніла пазыцыю камуністычнай партыі і кіруючай верхавінкі Сав. Саюзу, псыхалягічна аслабіла рэзыстанс унутры Савецкага Саюзу і нарэшце ўзмоцніла нэўтралістычныя настроі сярод заходняга дэмакратычнага **сьвету**.

Зразумела, што нашым найшчырэйшым пажаданьнем ёсьць зьвярнуць свабоду нашаму народу мірным шляхам. Аднак ня меншым нашым абавязкам зьяўляецца перасьцерагчы, паколькі наагул гэты голас можа мець нейкую вагу, аб небясьпецы памылковага расцэньваньня камэльлёнавага мяняньня аблічча савецкай палітыкі.

Савецкі Саюз зьяўляецца прадаўжальнікам нясупынага расейскага імпэрыялізму з той розьніцай, што гэта той-жа «Джінгіс-Хан», але які дысьпануе ўсімі наймацнейшымі сродкамі ўключна із атамнай энэргіяй дзеля рэалізацыі адзінай мэты — сусьветнай дамінацыі.

**С. Турцоў**

## ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

**У вадказ на запытаньні многіх нашых чытачоў выясьняем, што сп. Язэп Каранеўскі, у сувязі з абцяжаньнем іншай працай, ад даўжэйшага часу не зьяўляецца рэдактарам «Бацькаўшчыны».**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Да пытаньня суіснаваньня

**Ад Рэдакцыі. Наша газэта ўжо колькі разоў выказвала, што апошнія палітычныя манэўры камуністых — гэта толькі тактычныя ходы, у той час як із стратэгічнага гледзішча, яны ставяць старыя мэты: авалоданьне сьветам. У папярэднім нумары «Б-ны», А. Галубіцкі трапна назваў «шостай калёнай» цэлы сьцяг заходніх журналістых, якія, ці то запраўды паверыўшы ўсьмешкам бальшавікоў, ці то ў пагоні за лёгкай сэнсацыяй, дэзар'ентуюць сваіх чытачоў. Таму прыемна сьцьвердзіць, што ўсё-ж ня моўкнуць галасы, якія папяраджаюць сваё грамадзтва перад запраўднымі мэтамі камуністых. Як довад, прыводзім ніжэй нядвузначны артыкул Thierry Maulnier'a, зьмешчаны ў вапошнім нядзельным выданьні французакае газэты «Le Figaro».**

☆

«Ні кветкі, зь якімі прыймаюць жыхары Ленінграду францускіх пасажыраў параплаву «Баторы», ні рэдукцыя колькаснага складу — зрэшты нікому няведамага — савецкіх збройных сілаў, ні новы тон «Праўды» ў вадносінах да Захаду, ні прыемныя пагулянкі на лодках з учарашнімі «падпальшчыкамі вайны», ні арыентацыя савецкага тэатру й кіно на творы новага тону, дзе трактар перастае быць голоўным гэроем ды дзе сэрца гэраіні ўзварушваецца ня толькі здольнасьцямі гэроя ўжываць прагрэсыўныя мэтады ў палепшаньні вырошчваньня буракоў, — нічога мяне не адцягне ад таго, што мне здаецца адзінай праблемай у вадносінах да суіснаваньня.

«Ад гэтае праблемы не адцягне мяне навет факт, калі я даведаюся заўтра — і можа гэта я даведаюся — што Камінформ разьвязаны (Камінтэрн-жа быў у свой час), што ад камуністычных партыяў Захаду афіцыяльна выракліся ды што яны пакінуты самі сабе (гэтак-жа было зь кітайскай камуністычнай партыяй), што новая амнэстыя вызваляе ўсіх вывезеных, якія засяляюць сібірскія прасторы, ці навет што Немцы ўсходняй рэспублікі змогуць выказацца тайным галасаваньнем за далучэньне да заходняй рэспублікі ды што ім яшчэ аддаюць да гэтага Кэнігсбэрг.

«Зрэшты мы павінны быць падрыхтаваныя да такіх нязвычайных навінаў. Таму што савецкі ўрад выбраў шлях, якім намагаецца падбадзёрыць, стварыць атмасфэру, якую лічыць найбольш падходнай да зьдзейсьненьня сваіх плянаў, сама лёгіка гэтай новай палітыкі вымагае ад яе йсьці так далёка, каб атрымаць жаданыя вынікі. Калі мы ня будзем выглядаць дастаткова адпружанымі, зробіцца ўсё патрэбнае, каб нас адпружыць яшчэ больш. Гэта само сабой зразумела.

«Было-б абсурдам не згадзіцца, што наступіла вялікая зьмена. Яшчэ больш абсурдам было-б не паставіць пытаньня, як гэтую зьмену разумець.

«Ніхто ня сумляецца, што палітыка СССР, гэта вялікая палітыка, палітыка далёкасяжная і шырокіх плянаў; таму катэгорыя прадказальнікаў, што ўсё яшчэ распытваюць афіцыянтак, ці зорка такога маршала не пабляднела, ці рэакцыя часта може быць неабаснаваці Маленкоў запраўды страціў уплывы, ці Хршчоў іх напэўна затрымае, мне здаецца даволі лёгкадумная. Вялікая палітыка не мяняецца із зьменай асобаў. Тое, што я назваў адзінай праблемай у адносінах суіснаваньня, якраз адносіцца да вялікай палітыкі. Зьмена, якую мы бачым, адчуваем, якое ніхто ня ставіць пад сумлеў, гэта зьмена мэты, ці зьмена мэтадаў, якімі мэта, што не зьмянілася, павінна быць асягнута?

«Або „мірная каэгзыстэнцыя" азначае для СССР радыкальную й канчальную адмову ад рэвалюцыйнага змаганьня за сусьветнае грамадзтва, ад агульнай перабудовы сьвету незалежна якімі мэтадамі; або „мірная каэгзыстэнцыя" азначае датарнаваньне да асаблівых і часовых абставінаў рэвалюцыйнага змаганьня, якое шукае ў вадпружаньні для акцыі, больш датарнаванае да сучаснага становішча, і таму больш эфэктоўнае: свайго роду НЭП-у, у якім мы, людзі Захаду, былі-б пазьней кулакамі.

«Я маю сваю думку аб гэтым. Можа яна няправільная. Прынамся я маю права не давяраць тым, што прэтэндуюць на разгляд суіснаваньня, ухіляючыся ад самое праблемы».

У паняволенай Беларусі

# Выдуманыя й нявыдуманыя факты

Нядаўна ў вадным з нумароў «Б-ны», у ваддзеле «У паняволенай Беларусі», была пададзена вестка зь беларускага савецкага жыцьця пад заг. «Як хвабрыкуюцца савецкія нарысы». Вестка даволі цікавая, бо яна лішні раз даводзіць, што аблыжнасьць савецкае прапаганды ні на грош не зьмянілася — што прыхваткі, пры дапамозе якіх абдурваецца савецкага грамадзяніна, засталіся тыя-ж самыя. Пры гэтым некаторыя прапагандовыя ворганы захлушваюцца да такой ступені, што партыя праз свае цэнтральныя ворганы змушана сачыць, каб на ніжэйшых ступенях прапаганды хлусьня захоўвала хоць мінімум «праўдападобнасьці».

Ніжэй падаем выпадак, як рэспубліканская «Зьвязда» (з 3. VIII. 55) спрастоўвае абласную «Зару». Прыводзім тут апісваны «Зьвяздой» выпадак, каб пазьней прыгледзецца дакладней да некаторых трыкаў савецкіх газэт. Пад загалоўкам «Выдуманыя факты» «Зьвязда» расказвае:

«20 ліпеня адбылося паседжаньне савету Высокаўскай МТС, на якім былі абмеркаваны даклад сакратара райкому партыі тав. Сопава «Аб пастановах ліпеньскага пленуму ЦК КПСС» і даклад дырэктара МТС тав. Сьмірнова «Аб гатоўнасьці МТС і калгасаў да збору ўраджаю».

Праз некалькі дзён у брэсцкай абласной газэце «Зара» паявілася справазданьне з паседжаньня савету МТС. Чыталі яго высокаўскія мэханізатары й зьдзіўляліся: да чаго-ж усё пераблытана, выдумана нясумленным аўтарам. **Гэтак, газэта апісвае, як на трыбуну выходзіў камбайнер тав. Мазурык, які нібыта гаварыў, што ўключаецца ў сацыялістычнае спаборніцтва і пры заданьні 282 забавязваецца сабраць 400 гэктараў азімых і яравых збожжавых.**

**У запраўднасьці-ж тав. Мазурык на трыбуну не падымаўся і на паседжаньні савету не выступаў. Словы, якія прыпісваюцца камбайнеру, зьяўляюцца выдумкай газэты (падкр. у цыт. нашыя — Р. Л.).**

Выкрыўлена пададзена ў газэце і выступленьне агранома калгасу «Усход» тав. Міцука. Тав. Міцук гаварыў аб зборы ўраджаю, аб тым, што згодна з рабочым плянам, калгас зьбярэ з 637 гэктараў збожжа за 10 дзён. У газэце-ж напісана за 7 дзён. Далей «Зара» прыпісвае аграному наступныя словы:

«Мы даем слова сваечасова закласьці ня менш чым па 10 тон сіласу на кажную фуражную карову і па тры-чатыры тоны на сьвінаматку; сяўбу азімых правесьці да 10 верасьня, а тэхнічныя культуры апрацаваць і здаць дзяржаве да 1 сьнежня...».

**Нічога падобнага тав. Міцук не гаварыў.** Ды і ніяк ён ня мог сказаць аб гэтым, бо ў калгасе «Усход» падрыхтавана сіласных збудаваньняў усяго на 200 тон сіласу замест 1.145 тон паводля пляну. Будуецца-ж толькі адна траншэя на 150 тон.

**Яшчэ большую волю дапусьціла газэта ў тым месцы, дзе піша аб забавязаньнях калектыву МТС. Не палічыўшыся з фактамі, яна дабавіла да таго, што прынята мэханізатарамі, пяць новых пунктаў.** У выкрыўленым выглядзе пададзены й некаторыя пункты забавязаньняў.

На паседжаньне савету МТС спэцыяльна прыяжджаў супрацоўнік рэдакцыі абласной газэты. Ён не падпісаўся пад справазданьнем у газэце..».

Як бачым, абласная «Зара», падала сваім чытачом цэлы сьцяг выдуманых фактаў. У практыцы савецкае прэсы — зьявішча ня новае. І не на гэта трэба зьвяртаць увагу. Важна-ж у гэтым тое, каб вестку гэтую чытаць правільна «між радкоў», каб праз заслону фактаў **выдуманых** бачыць факты **нявыдуманыя,** запраўдныя — тыя, для замаскаваньня якіх і публікуюцца падобныя да вышэй прыведзеных «кашалёў з лапцямі».

Вось-жа будучы пераканаными, што выпадак з «Зарой» характэрызуе сабой ня толькі Высокаўскую МТС ці Брэсцкую вобласьць, а адносіцца да цэлае Беларусі, — трэба зрабіць з гэтага вельмі важны й нядвузначны вывад:

**Раструбленае і ўсё яшчэ трубленае савецкае сацыялістычнае спаборніцтва, а ў гэтым і «сумленнасьць» адносін савецкіх грамадзян да свае «працоўнае дзяржавы» — гэта міт і мыльная бурбалка. Бальшавіцкім інсцэнізатарам «народнага энтузіязму» нестае ўжо кандыдатаў нат на трыбунныя абяшчаньні «дагнаць» і перагнаць», «выканаць і перавыканаць».** Адсюль і плывуць бесьперапынныя патокі знацыялізаванае дзяржаўнае хлусьні.

Пры гэтым не ў ваднога з нас паўстае пытаньне: адкуль такая шчырасьць і абароньніцтва, зь якімі выступіў рэспубліканскі ворган супраць свайго малодшага абласнога брата? Зьявішча данядаўна яшчэ нябывалае — партыйная прэса пачынае гаварыць аб сваёй-жа собскай хлусьні. — Рэч-жа бо ў тым, што з гледзішча справаздачнай хлусьні абласны й рэспубліканскі ворганы — гэта дзьве кроплі тае самае атруты. Менская «Зьвязда» зайлгалася ніяк ня менш за брэсцкую «Зару», а таму яна й пачынае скрэбці балота на іншых, каб хоць гэтым прыхаваць сваё собскае.

**Р. Л.**

# Дзе дзеўся «Беларускі Лемантар»?

**(Ліст да беларускага грамадзтва ў ЗША)**

Дзесьці ў 1947 годзе ў Заходняй Нямеччыне коштам высілку беларускага грамадзтва быў выдадзены «Беларускі Лемантар», вельмі ўдала апрацаваны сп. сп. А. Радкевіч, М. Кругловічам і З. Шпаком.

Гісторыя гэтае кніжкі сваеасаблівая і ў вялікай меры пакрытая туманам містэрыі. Нам, праўда, ня зусім ведамыя ўмовы, у якіх выдаваўся гэты каштоўны падручнік, аднак факт бясспрэчны, што выдадзены ён быў на часе і ніколі ня траціў свае актуальнасьці. Наадварот, «Беларускі Лемантар» стаўся цяпер яшчэ больш актуальным, бо вось ужо ад каторага часу Беларусы ў Эўропе намагаюцца знайсьці хоць колькі эгзэмпляраў гэтае кніжкі, і ўсе іхныя стараньні разьбіваюцца аб мур невядомасьці і... Атлянтычны акіян, у пене якога зьніклі сьляды гэтага грамадзкага здабытку. Куды яны павялі зь ньюёрскага порту — неразгаданая тайніца. Можа БАЗА ведае што-небудзь аб гэтым, мо БІНіМ, мо Ўсебеларускі Архіў? Цяжка паверыць, каб аж так бясьсьледна магла зьнікнуць кніжка ў цэлым сваім тыражы. А выясьніць гэтае пытаньне хіба ўжо пара. Людзі ўжо ад даўжэйшага часу дапытваюцца гэтага падручніка для сваіх дзяцей, аднак дасюлешнія намаганьні высьветліць долю «Лемантара» заставаліся бясплоднымі. А куды лепш было-б знайсьці й пусьціць у вабег кніжку, чымся расьпісвацца пад жальбамі аб нашых нястачах у ўзгадаваньні дзяцей ды пустых часамі дыскусіях на гэтую тэму. І трэба спадзявацца, што нашы грамадзкія й культурныя арганізацыі ў ЗША захочуць і змогуць знайсьці тых асобаў, ад каго з поўным правам трэба дамагацца адказаць на пытаньне: «Дзе дзеўся Лемантар?» Мы ня можам дазваляць, каб дзе-небудзь у скрынях марнавалася рэч, неабходнасьць якое адчуваецца намі ўсюды. «Беларускі Лемантар» мусіць быць знойдзены, і трэба падаць да ведама заклапочаных бацькоў, дзе й якім чынам яго можна набыць.

**Я. Запруднік**

# Наступ супраць беларускай...

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

Для нас проста незразумелае гэтае, калі яго так назваць, перадрашэнскае «непрадрашэнства», бо-ж ведама, што адным з найбольшых злачынаў Крэмля ёсьць прымусовая русыфікацыя нерасейскіх народаў супраць іхнае волі, безаглядцае нішчэньне іхнае нацыянальнае культуры, мовы, наагул іхнае нацыянальнае патэнцыі. Той, хто сьвядома замоўчвае гэтыя злачынныя акты, зь імі згаджаецца, іх перадрашае. Інакш гэтага выясьніць нельга!

У нумары 20 «Бацькаўшчыны» за 15 травеня сёлета мы былі зьмясьцілі на гэтую тэму артыкул, асноўны сэнс якога быў выказаны ўжо ў самым загалоўку: «На ўдар адказаць контрударам!» Адсылаючы зацікаўленых да гэтага артыкулу, сяньня хочам толькі паўтарыць часта выказаную намі думку, што, каб памагчы эмігрантам у іхным змаганьні з бальшавізмам для нашага і Захаду супольнага дабра, мала «вывучаць» толькі гэтыя эміграцыі цэлымі гадамі, мала праяўляць максімум нядзэцыдаванасьці і нестаноўчасьці, мала ўсьцяж вычэкваць, што само жыцьцё прынясе нейкую разьвязку. Трэба на бальшавіцкія ўдары адказаць собскімі контрударамі, трэба выкарыстоўваць кажнае аружжа, якім паслугоўваецца вораг, у тым ліку і аружжа нацыянальнае. Трэба ўсьцяж ворага біць усюды і галоўна там, дзе яму найболей баліць!

**Мацьвей Заранка**

# Беларускія настаўнікі на ўслугах бюракратаў

У перадавіцы «Праўды» з 22. VIII. 55 спамінаецца між іншага, характэрны выпадак у ваднэй зь менскіх школ, які кідае сьвятло на некаторыя моманты беларускага школьніцтва, а ў прыватнасьці — на ўзаемаадносіны школьных настаўнікаў, як ахоўнікаў вучнёўскае дысцыпліны, і савецкіх бюракратаў, разбэшчаныя сынкі якіх вельмі часта злоўжываюць аўтарытэтам сваіх бацькоў.

Гэтак у мінулым навучальным годзе пэдагагічная рада 42-й сярэдняй менскай школы справядліва зьнізіла ацэнку за паводзіны вучням Багданаву й Невядомскаму і не дапусьціла іх да матуральных эгзамінаў. Такая пастанова пэдагагічнае рады ўзбурыла бацьку Багданава, работніка пракуратуры. На ягонае настойваньне («по блату!») пракурор БССР т. Бондар незаконна запатрабаваў адкліканьня пастановы пэдагагічнае рады.

Перадавіца «Праўды» прыводзіць гэты выпадак, як прыклад ненармальнага стану рэчаў у беларускім школьніцтве. Мы-ж дадамо ад сябе, што гэта адзін зь нязьлічоных падобных выпадкаў, аб якіх савецкія газэты заікаюцца толькі раз на год, перад пачаткам новага навучальнага сэзону. Ён вымоўна сьветчыць аб тым, што савецкае настаўніцтва пастаўлена ня толькі на ўслугі бязглуздых партыйных вымогаў, але й на задавальняньне капрызаў цэлае плоймы ўрадавых бюракратаў ды іхных разбэшчваных вырадкаў.

**Р. Л.**

**Кузьма Чорны**

# Лявон Бушмар

**ЧАСТКА ДРУГАЯ**

**(Працяг)**

Вечар увосень надходзіць шпарка. Бушмара ён агарнуў ля хутарскоe брамы. Сінь неба згусьцілася, лясы пачарнелі.

Дубняк падыходзіў да самых хат. Увечары ён зусім зьліваецца зь мізэрным драўляным чалавечым прытулкам. Як запальваюцца на небе зоры, неба ўздымаецца вышэй, зямля чула дрэмле пад ім. Тады, калі заплача ў хаце дзіцянё, дзіцячы голас далёка чуваць у лесе.

Я цябе люляла...

Сьпявае жанчына. На дварэ чуваць, як скрыпяць вяроўкі ад калыскі. У хаце гавораць. Жанчына ўсё сьпявае.

— Андрук, ты зьбіраешся куды? — чуваць другі жаночы голас.

— Я надвечар бачыў, як Бушмар дадому з допру йшоў, — адказвае мужчына.

— Гэтак хутка...

Жанчына яшчэ нешта гаворыць, але чалавек выходзіць з хаты. Другі чалавек шпарка адбягае ад вакна. У змроку ён здаецца клышаногім. Адбегшы крокаў дзесяць, ён спакойна варочаецца назад, нібы йдзе сабе спакойна ў сваю дарогу.

— Добры вечар, Андрук, — гаворыць ён, стараючыся быць спакойным.

— Добры вечар, Вінцэнты, — гэтак сама стрымліваючыся, гаворыць Андрэй.

— Бушмар вярнуўся.

— Ну!

— Ня бачыў?

І Вінцэнты хітра ўсьміхаецца, як сьледчы, які злавіў на слове падсуднага. Пасьля гаворыць:

— Лепш-бы ён зусім не вярнуўся.

— Чаму?

— Брыдкі чалавек. Воўк. Зьвер. Людзей ненавідзіць. Зь яго карысьці людзям жаднае быць ня можа.

— Дзіўлюся. Вы-ж зь ім павінны добра ладзіць. Ён сабе дзедзіч, а ты далікатны чалавек і хамаў ня любіш, з гадамі знацца ня хочаш... Хіба вы не падзялілі чаго?

— А адкуль ты ведаеш, што я зь ім вельмі вялікі прыяцель павінен быць?

— Памойму, няма вам за што сварыцца. Жылі-б вы сабе, як мае быць, далікатна, пабожаму; зналіся-б, як добрыя людзі, як сваякі якія...

Вінцэнты не даслухаў. Ён пайшоў шпарка, з маўкліваю нянавісьцю.

— Бож-жа мой, Бож-жа мой, — шаптаў ён, прыціскаючы на «ж». Ён здалёк чуў, як пайшоў у вуліцу Андрэй, і як Аміля сьпявала ўсё свайму меншаму сыну.

V

Бушмар, калі прыпыняўся на ўзгорку, на скрыжаваньні свае дарогі зь вясковаю, чуў у сабе кіпеньне вялікае волі лясоў і поля. Пасьля гэтакае няволі гэтакая воля!

Бушмар у падвойнай турме!

Ён калісьці ў салдатах быў — у вялікім зборышчы людзей у горадзе!

Калі ён вышаў за страшную браму допру, яшчэ чуў на сабе цяжкасьць прыгнечаньня, аж пакуль ня мінуў апошняга гарадзкога завулку. Як-бы хто магутны, непераможны трымаў яго за плечы і ціснуў у зямлю. Калі прайходзіў местам, пазнаў блізкіх, з свайго боку людзей каля вазоў, але яшчэ больш тады даў ходу, каб хаця не заўважылі і не запрасілі садзіцца на воз. Ён зусім прыйшоў да спакою, калі пачуў, як палявы вецер сьвішча ў вушы і б'е проста ў вочы. Тады адчуў ён струмень бурнае волі. Яна гнала яго па зямлі, асеньнімі дарогамі, сьцежыстымі пераходамі, лясамі. Больш нешта за сорак вёрст зрабіў ён за той дзень і яшчэ больш ішоў-бы. Лёгка ўвайшоў ён у лес, як бура мінуў яго зараз-жа. Галас рвануўся да яго на поўны рух свае сабачае радасьці. У браме яны стаялі ўдвух, абняўшыся. Бушмар разьдзьмутымі ноздрамі цягнуў у сябе восенны пах мокрага дрэва, саломы, зямлі, сабака захлынаўся віскам, калаціўся з радасьці. Апамятаўшыся, Бушмар рушыў пад хату. Сабака паваломся на задніх лапах сьледам, трымаючы ў вабдымках гаспадараву сьпіну. Галена спаткала Бушмара на ганку. Яна абняла яго за шыю і павяла ў хату. І толькі тут, калі ўжо запахла знаёмым спрадвеку кутком, заварушылася дзесьці ў нетрах сэрца трывога. Ён і сам не разумеў яшчэ, што гэта і з чаго. Ці гэта пачатак чагосьці вялікага, ці драбяза якая? Галена падвяла яго да калыскі:

— Бачыш?

Ён чыркануў запалку, каб угледзецца ў твар невядомага яшчэ сына. Галена ня зводзіла зь яго вачэй.

— Маладзец, — адрэзаў ён ні то жонцы, ні то сыну.

Праз паўгадзіны ён ужо хадзіў па дварэ. Сабака гайсаў за ім. Постаці іх шпарка варушыліся ў раньнім змроку, яны некалькі разоў абышлі двор. Нарэшце Бушмар рушыў за браму. Ён ішоў шырокаю сваёю мяжою і тут чуў, як тая трывога расла. І ён пачаў усьвядомліваць яе. Ён ужо трымаў у думках тое, што бачыў, як толькі падыйшоў быў сёньня пад дом, але што ўцякло тады з галавы і сэрца, каб бязьлітасна вярнуцца цяпер.

За дзікаю, яшчэ бацькаўскаю палявою ігрушаю мяжа была разьвернена плугам. Навет спачатку, пакуль яшчэ не закіпела думка, ён з гаспадарскае прывычкі падумаў быў: «нейкі няўмека зворваў», а пасьля раптам усё патанула ў мятусеньні навакольнага зямнога змроку і падлеснае яснoты. Усё скрозь папабіта было разорамі на дзялянкі — пачатак позьняга зябу. Далёка чарнеў у змроку хутар. Разоры вялі Бушмара да самае агароджы. Дзіка кінуўся ён у хату да Галены.

— Наша поле вунь там, — сказала яна, паказваючы яму ў вакно за сад. — На тры душы пакінена нам. От нядаўна ўсё зрабілася. Я-ж пісала табе.

— Безь мяне?!

А што ты памог-бы?

Яна глядзела яму ў вочы, прасіла позіркам ня думаць пра гэта. Вочы ў яе былі гэтакія, як тады, калі ён першы раз убачыў быў яе на судзе. Вочы гэтыя яшчэ больш узьнялі ў ім навальніцу страшнага ўтрапеньня. Падобна было тады, як калісьці першы раз пасьля паверкі сеў ён на ложак у казарме і як першы раз зачынілі яго ў допраўскай камары. Ён кінуўся зь лямпаю раптам да калыскі.

— Чаго ты ўгледаешся так? — зьдзівілася Галена на страшны неспакой яго панурага твару.

— Гэта мой?

Яна гнеўна, горда стала перад ім:

— Твой!

— А ня хлусіш?

Яна ўзьняла галаву і адыйшла моўчкі.

— Ага, чаго-ж ты змоўкла?!

Ён пачынаў ужо крычаць. Яна стаяла напроці вакна.

— Мусіць грэх нейкі ёсьць, калі маўчыш!

— Ёсьць! — адказала яна, павярнуўшыся да яго.

—Гавары!

— Не скажу.

— Скажы!

— Не!

— Дык я зараз іначай пагавару.

Куток мовы

# Аб некаторых словах і хормах нашае мовы

(Працяг з папярэдніх нумароў)

**Казаць, -ацца, капач, кумпяк, лаўба, ліст, ложак, маленства маніцца, мінуласьць, мноства.**

«У дэкларацыі **гаворыцца» — кажацца.**

«Там была цяжкая праца **вуглякопаў»** — русыцызм. Тыя, што капаюць зямлю, завуцца паблр. **капачы.** Дык і капаючыя вугальле, будуць **капачы** і адно ў некаторых прыпадках дзеля яснасьці трэба дадаваць «вугальля». І снадзь капаць завецца **капачом.**

«Шынка» — польскі германізм, паблр. **кумпяк.**

«Закідае невады на **лоўлю»** — русыцызм, паблр. **лаўбу.**

«Пастырскае **пісьмо** сьв. Паўлы Апостала». Мае быць **ліст.**

«Сваё абвінавачаньне ён мог сьпісаць у больш **граматнай і разьвернутай** хорме». Грэцкая «грамата» ўжо цэлыя вякі як замєнена ў блр. мове сваім **ліст,** а замест «граматны» — таксама даўно ёсьць сваё **пісьменны**. Калі хорму, як і дом, разьвернем, дык яе ня будзе. Аўтар, відавочна, хацеў сказаць **разгорненай.**

«Гэтае **лятаючае ложка** мае змогу **вэртыкальна стартаваць».** Валей ужываць **ложак** — слова із сярэдняга дыялекту, што ёсьць асноваю блр. мовы літаратурнае. Было-б: Гэты **лётаючы ложак** мае змогу **стацьцёва ўзьлятаць.**

«Ад **дзецтва** вызначалася набожнасьцю» — русыцызм, паблр. **з маленства.** А **дзяцінства** паблр. адказуе рас. «ребячество».

**«Меў намер** уцячы» — русыцызм, бо зроблена подле рас. «имел намерение», паблр. **маніўся.**

«Мінуўшчына» — дзівоснае тварэньне, калісь кімсь пушчанае. Ня можа быць «мінуўшчына» калі няма і ніколі ня было «мінуўшы». Ёсьць **мінулы, мінуласьць.**

«Загарнулі **многасьць** рыбы» — полёнізм, паблр. здаўна ёсьць **мноства.**

**Навука, назоў, накшы, накшасьць, нацягаваць на когось, на чале, неазначаны, недастатны, нейкі, параднік, пашырэньне, перадмова, Пётра, прагавіты крыві, прыгатова, прыгатаваньні, прыкідавацца.**

«Гэта не паслужыла яму **лекцыяй».** «Лекцыя» ў значэньню кары гэта — не пабеларуску. Мае быць: Гэта не паслужыла яму **навукаю.** Адно із значэньняў блр. слова «навука» адказуе рас. урок у значэньню кары. Прыкладам: На другі раз яму будзе добрая навука. Ст. Далі яму добрую навуку. Нсл.

«Першая пазыка выпушчана пад **назвай** „Пяцігодка ў чатыры гады"» — полёнізм. Паблр. ёсьць **назоў,** слова вельмі пашыранае не адно ў мове народнай, але і ў літаратурнай; ужывалі яго **ўжо** нашаніўскія пісьменьнікі, асабліва М. Гарэцкі.

«Паставіў сем паненак, як адна, ніякае **адмены** нідзе няма». «Вызнаньне **адменнасьці** югаславянскіх мэтодаў» — полёнізм. У першым прыпадку трэба сказаць **розьніцы,** у другім — **накшасьці. Накшы** адказуе пол. «одменны». Даўно ўжо высьніў Карскі, што «накшы» — «іншы **якасьцяй».**

«Я **напяльваў піджак** ягоны» — русыцызмы. Паблр. — Я **нацягваў марынарку** ягоную.

«Камітэт **узначальвае** савецкі генэрал». Падчыркнутае слова належа да красачак савецка-беларуска-расейскага жаргону. У блр. мове няма й ня было «начала», дык ня можа быць «начальнік» ані «ўзначаліць», каторае штучна зроблена з рас. «начало» подле рас. «возоглавлять». Мае быць **На чале** камітэту стаіць.

«Цягнік задзержуецца на **неакрэсьлены** час» — полёнізм, паблр. **неазначаны.**

«Памылкі дзеля **недастатковай** веды гістарычнага матар'ялу». «Недастатковы» — слова няўдала зробленае. Тымчасам маем добрае слова **недастатны.** Гл. «Групы словаў» («Б» № 35/114). Мае быць: Абмылкі дзеля недастатнай...

«За які тыдзень зьявіўся ў Слонім **нехта** Чарняўскі». Гэтак парас., але паблр. — **нейкі** Чарняўскі, дарма што займя «нехта» ёсьць ў блр. мове і ўжываецца ў іншых прыпадках.

«Дараднік». Слова штучна створанае пад уплывам пол. «дорада, дорадца, дорадзіць». Паблр. ёсьць **парада, парадзіць, парадпік, парадніца.**

«Для **распаўсюджаваньня** гэтага культу Езус выбраў...» Слова няўдала зробленае Украінцамі подле рас. «распространение». Цяпер і Украінцы яго перасталі ўжываць. Паблр. ёсьць **пашырэньне.**

«Прадмова» — полёнізм, што відаць із фонэтыкі гэтага слова. Паблр. — **перадмова.**

«Сымон **Пётр** упаў да кален Езусавых». Паблр. — **Пётра,** а таксама **Паўла, Аляксандра, Сыльвестра, зубра, тыгра, швагра, сябра** і іншыя, у каторых перад **л, р,** ёсьць сугук.

«Каўказец не ўважае **крыважадным** людаедам сярэдняга работніка» — частжава зьбеларушчанае рас. «кровожадный». Рас. «жадный» адказуе блр. «прагавіты» й «гальлівы» (мацнейшае першае). Будзе: Каўказец не ўважае за **прагавітага крыві...**

«Браў грошы на **падрыхтоўку** еміны». Зь нямецкае асновы подле рас. «подготовка» зроблена «падрыхтоўка» — зусім у стылю савецка-беларускага жаргону. Паблр. ёсьць **прыгатова. ДЗ.**

«Ён працаваў **нарыхтоўшчыкам».** Пра суфікс **-щик, -чик,** як вылучна расейскі ў словах, абазначаючых дзеючую асобу, была ўжо гаворка. Тут расейскі суфікс -щик прычэплены да нямецкай асновы. У блр. мове ёсьць «гатаваць, прыгатаваць, прыгатова», дык будзе **прыгатоўнік,** калі няма якогась апрычонага слова. Таксама будзе **перакладнік,** а не «перакладчык», у каторага рас. суфікс -чик — пад уплывам рас. «переводчик».

«У першых тэлефонных апаратах і **перадатчык** размовы і **прыёмнік** былі аднолькавыя» — абодва русыцызмы, паблр. — **перадаваньнік, прыемца.**

«Я, **удаючы,** што выходжу з бараку, стукнуў дзьвярыма» — полёнізм, паблр. — **прыкідуючыся.** Блр. **удаць, удаваць каго** адказуюць рас. «донести, доносить на кого», а **ўдацца, удавацца ў каго** знача «пойти по ком». Ой, Югася, Югася, у каго-ж ты ўдалася, ці ў матулю, ці ў вайца? Ар.

**Рудня, стрымя, шытная машына, ток, трыкутнік, тук, узаняцца, ужыцьцёвіць, услон, уцекі, целцы, цікацца, частаваць, чэрствы.**

«Яны вядуць і пад зямлю — у **руднік** і шахты» — русыцызм, паблр. — **рудня.** Адгэтуль у Беларусі ёсьць шмат пазоваў мясцовасьцяў «Рудня», бо ў такіх мясцовасьцях даўней капалі (балотнае) зялеза.

«Страмёны» — асаблівасьць беларуская толькі ў канчатку й націску, але «стра-» — чужое. Мае быць **стрымёны** (адно **стрымя). У -ры-** тая самая рыса, што ў «дрыжэць».

«Прадаваў **швейныя** машыны, кладучы ў кішэню вялікія **барышы»** — русыцызмы Паблр. **шытная** машына, «шытныя ніці. «Барышом» пабеларуску завецца пачостка (галоўна выпіўка) прасьле куплі-продажы, а на купленай рэчы бывае і **зарабстак.**

«Праз **сталёвую** плітку **магнітнаму патоку** лягчэй прайсьці, чым праз паветра». «Сталёвы» — полёнізм, паблр. **сталяны** (націск на -ны). «Магнітны» — русыцызм, у блр. мове маем **магнэс, магнэсны.** «Патоку» ў белар. мове няма, замест яго ёсьць цурок, але ёсьць **ўтачыць** (прыкл. **утачыць піва), ток.** Будзе гэтак: Пераз сталяную плітку магнеснаму току лягчэй прайсьці, чымся цераз паветра.

«Трохкутнік». Ужываючыя хормы «трохкутнік» думаюць — і правільна, — што ў гэтым слове мае быць хорма дакладнага (роднага) склону лічніка «тры». Цяпер у гэтым склоне ёсьць хорма «трох», але даўней была хорма **трый,** каторая перайшла ў **тры** (як «шэрый» ў «шэры»). Хорма «тры» заўсёды засталася ў словах складаных, а ў нескладаных вельмі рэдка; прыкладам маем яе ў гэткай прыпеўцы аднае казкі:

А ў лісічкі новы двор, новы двор,
Тры дачок, тры дачок на выбор.

Тут «тры» знача тое самае, што «трох».

«Патрэбны ня толькі бялкі, **тлушчы.** але й вітаміны» — полёнізм, што відаць із ягонага гучэньня, каторому адказуе белр «таўсты». Паблр. — **тукі.**

«Да Зязюлькі (так звалася дзяўчына) **заляцаўся** самы лепшы дзяцюк нашай краіны» — полёнізм, паблр. **уганяцца за кім.** Будзе гэтак: За Зязюлькаю... уганяўся найлепшы дзяцюк нашага краю.

**«Зьдзейсьніў»** ліквідацыю т. зв. «кулацтва» — украінізм, паблр. — ужыцьцёвіў.

«Зэдлік» — польскі германізм, паблр. — **услон, слон.**

«Аб **„уцечцы"** Бэры» — полёнізм, паблр. — **уцеках.**

«Чырвоныя **целкі** крыві» — полёнізм, бо паводля пол. «цялка»; паблр. «цела», здрабн. **целца, целцы.**

«Тут мы становімся партызанамі і **падкрадаемся** мінаваць чыгунку» — русыцызм, паблр. **цікацца, цікаемся.** Ар.

«Н. гасьціла ў сябе Пяткевіча». **Гасьціць, гасьцяваць** можна толькі ў кагось, а госьця ў сябе **частуюць.** Мае быць: Пяткевіч гасьціў у Н. Або: Пяткевіч быў у госьцях у Н.

«Самі **чорствым** давяцца комам» — русыцызм, паблр. — **чэрствым.**

(Далей будзе)

Я. Станкевіч

# Мае заўвагі да «Кутка мовы»

Сучасная беларуская літаратурная мова, якая, у сілу гістарычных абставінаў, разьвілася не із старой нашай літаратурнай мовы, але пачала фармавацца ў палавіне XIX стагодзьдзя на базе народных дыялектаў, ёсьць яшчэ маладая. З гэтае прычыны, а таксама ў сувязі зь няспрыяльным палітычным палажэньнем беларускага народу, у ёй яшчэ шмат формаў і словаў канчальна не ўстаноўленых, шмат лішніх барбарызмаў, як і непатрэбных новатвораў, на месца якіх маглі-б быць уведзеныя добрыя й правільныя словы й формы беларускія, якія існуюць у мове народнай або ёсьць у старой беларускай літаратурнай мове, але ў сучасную літаратурную мову з розных прычынаў раней ня ўведзеныя.

Таму праца над культурай і чысьцінёй нашай сучаснай літаратурнай мове вельмі патрэбная й карысная. Пры гэтым праца такая, як і кажная іншая культурна-нацыянальная праца, магчымая сяньня толькі на эміграцыі, бо на бацькаўшчыне, дзе праца ў галіне нацыянальнае культуры ўважаецца злачынствам, а ў галіне мовы праводзіцца прымусовае абрусеньне, нічога ў гэтым кірунку рабіць нельга.

Дык трэба толькі вітаць ініцыятыву «Бацькаўшчыны», якая дзеля працы над культурай беларускае мовы ўвяла на сваіх бачынах адмысловы аддзел — «Куток мовы». Таксама трэба вітаць і дзякаваць беларускаму моваведу др. Я. Станкевічу, які сыстэматычна выпаўняе гэты «Куток мовы» сваімі артыкуламі, паказваючы, якія словы й формы павінны ў нашай мове ўжывацца, а якія, як непатрэбныя барбарызмы й штучныя нэалягізмы, ужывацца не павінны. У гэтых сваіх артыкулах др. Я. Станкевіч даў шмат цэннага й карыснага матарыялу, якім ня мала прычыніўся, — і будзем надзеіцца, прычыніцца яшчэ больш — да культуры й чысьціні нашае мовы.

Адзначаючы гэтую карысную працу др. Я. Станкевіча, мы хочам падчыркнуць, што гэтая карысьць была-б шмат большая, калі-б др. Я. Ст. падыйшоў да гэтага пытаньня трохі інакш і прытарнаваў да яго трохі іншыя мэтады. На нашую думку, ён падходзіць да гэтага пытаньня чыста тэарэтычна і фармальна, не зьвяртаючы належнае ўвагі на практычныя магчымасьці й патрэбы нашае мовы, ды пры гэтым ня лічачыся з псыхалягічнай рэакцыяй чытачоў. Гэта рэакцыя часта можа быць неабаснаваная, але дзеля практычнае карысьці ад праводжанае работы лічыцца зь ёю трэба.

Свае некаторыя заўвагі аб пасуленьнях др. Я. Ст. ў справе нашае мовы мы зілюструем на некаторых прыкладах, узятых зь ягоных прапановаў у «Кутку мовы», як і ўжываных ім самым словаў і формаў, дарма што Рэдакцыя, як мне стала ведама, некаторыя зь іх папраўляе дзеля захаваньня аднастайнасьці мовы газэты. У гэтым артыкуле мы абмежымся толькі да двух асобных моўных пытаньняў у прапановах др. Я. Ст.: 1) да справы ўводжаньня ў літаратурную мову правінцыяналізмаў і 2) беларускай вымовы словаў іншамоўнага паходжаньня.

### 1. Пытаньне правінцыяналізмаў

Пад правінцыяналізмамі мы разумеем тыя словы й формы, якія ўжываюцца ў народнай мове, але ня ўжываюцца ў мове літаратурнай, або ўжываюцца ў ёй вельмі рэдка й ня ўсімі. Пры гэтым, правінцыяналізмы можна падзяліць на дзьве групы: а) якія ў народнай мове ўжываюцца шырака і ведамыя ў бальшыні народных гаворак, б) якія ўжываюцца толькі спарадычна і адно ў некаторых мясцовасьцях.

На нашую думку, правінцыяналізмы першае групы мы павінны ўжываць бязь ніякіх засцярогаў, навет і тады, калі ёсьць ў нашай мове іншае слова, агульна ў ёй ужыванае. Гэткім спосабам мы толькі павялічым колькасьць сынанімаў, ад якіх нашай мове ніякай шкоды ня будзе. Затое-ж правінцыяналізмы другое групы мы павінны ўводзіць у літаратурную мову толькі ў тых выпадках, калі на месцы іх ўжываецца або барбарызм або няўдалы наватвор. Гэта зусім не датычыць мовы паэтычнай, у якой, для падчыркненьня лякальнага калярыту, пажаданыя й правінцыяналізмы найбольш рэдкія, але для дадзенае мясцовасьці характарыстычныя.

Дык прапанаваныя др. Я. Ст. вельмі пашыраныя ў народнай мове словы й формы: «Цальнёг», «сёлета, летась, залетась», «ачуняць» замест штучна ўтвораных або небеларускіх «цаліна», «у бягучым, у прошлым, у пазапрошлым годзе», «выздаравець», ня могуць выклікаць ніякіх засьцярогаў. Іх трэба ўжываць. Тым болей трэба ўжываць такія чыста беларускія словы, як «гара» замест расейскага «чардак», або «ёмісты», у значэньню расейскага «вместительный», замест штучнага наватвору «умяшчальны».

Затое няма найменшай патрэбы ўжываць вузкіх правінцыяналізмаў, ведамых толькі ў вабмежаваных мясцовасьцях, а тым больш даваць ім перавагу й пяршынство, калі ёсьць з гэтым значэньнем іншыя чыста беларускія словы, шырака ведамыя і ў народнай мове і якія ў літаратурнай мове ўжо заваявалі поўнае права грамадзянства. Вось прыклады такіх словаў і формаў, якія др. Я. Ст. сам практычна ўжывае або суліць іх ужываць у літаратурнай мове, хоць-бы ў якасьці сынанімаў да ўжо ўжываных: «другадзень» побач з агульнапрынятым «аўторак», «сядравы» замест «халаднаваты», «зімнаваты», «субарніна» замест «нябыліца», «укульміцца» замест «зася-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

— Ніяк ты іначай не пагаворыш.
— Гавары, хто прыходзіў да цябе.
— Хто толькі хацеў, той і прыходзіў.
— Скажы!
— Не скажу.
— Скажы...

Яна стаяла перад ім, ня зводзячы зь яго вачэй. Ён усё гаварыў: «скажы... скажы»... Раней крычаў, пасьля пачаў прасіць. Прасіў доўга, раптам рабіўся мяккім — дзіўным навет для Галены, то ізноў узьнімаўся да свае зьвярынае сілы ў голасе. Біў тады кулакамі аб стол, пасьля зноў ападаў да просьбы. А яна глядзела, як ён вар'юецца, і ўсё сьвярджала:

— Не скажу.

Нарэшце ён абясьсілеў. Пайшоў з хаты, гукнуў за сабою Галаса. Як віхор, праімчаўся да лесу і празь лес, ішоў, сам ня думаючы куды. У лесе моцна шастала пад цяжкімі ботамі яго не зьляжалае яшчэ лісьцё, за лесам — гучна шоргаўся аб абцасы жвірысты пясок на дарозе. Бушмар нагадваў штосьці бязьлітаснае і моцнае, што ўсё крышыць дашчэнту пад нагамі сваімі, сьцірае усё з твару зямлі і, не заўважваючы гэтага, у імя сваіх адчуваньняў сьвету для сябе аднаго. Малыя і слабейшыя істоты ратуюцца, уцякаюць з-пад гэтага страшнага ходу, але іх ніхто не заўважае. Тут толькі дзікасьць і выпадковасьць. Што і хто пападзецца пад бот?! Хто і што будзе растаптана на сьмерць?! Хто і што застогне пад ботам, разьвітваючыся з жыцьцём?

Бушмар шукаў свайго спакою ў шпаркай хадзе. І толькі цяпер загаварылі сорак вёрст дарогі за дзень. У нагах зьяўлялася цяжкасьць, ападаць пачалі — нездаваленьне, страх, злосьць, нянавісьць, трывога... Перад ім чарнелі сьцены і стрэхі, мільгацелі сьвятлом вокны. Даўно ня быў тут Бушмар. Ён цураўся гэтага месца даўно ўжо, аж з самага здарэньня з паручнікам. А цяпер і пагатоў. Каля крайняе хаты ён стаў, пакуль узыходзіць пачала на думку вялікая патрэба яго рушыць зараз-жа адсюль.

— Здароў, Бушмар.

— Бушамар здрыгануўся. Ён не заўважыў быў, што ў варотах стаялі людзі. Некалькі чалавек. Цяпер ён пазнаваў тутэйшых хлопцаў. Яму нядобра стала пры іх.

— Як маешся, Лявон?

— Нечага-ж да нас?

Бушмар не гаварыў нічога. Да яго падыйшлі. Цяпер ён пазнаў і Андрэя тут. Штосьці там гаварылі каля яго, ці то зь ім, ці то самі з сабою, але ён ня чуў, пра што. Толькі кальнула яго Андрэева слова. З гэтага ён і чуць пачаў гаворку:

— Кагадзе што пра цябе мне Вінцэнты ўспамінаў. Нешта вельмі ня любіць ён цябе.

І тут прайшло ўсё ранейшае. Выразна вырасла перад усім адно вялікае і найважнейшае цяпер: нянавісьць да Андрэя.

— А ты яго ці не нацкоўваеш на мяне?!
— Хіба мне работы іншае няма?
— А што табе больш рабіць? Табе іншае работы й ня трэба.
— Чаму ты гэтак думаеш?

Бушмар чуў на сабе зьняважлівы і злосны Андрэеў зірк, бачыў як той падступіў бліжэй.

— Я ня думаю, а на сабе бачу тваю работу. Я яе пачуў добра. Можа лепш ужо й чуць ня трэба.

Ён стрымліваў моцнае жаданьне зьмяшаць Андрэя зь зямлёю.

## VI

Што ён там гаварыў з Андрэем, ці Андрэй гэта зь ім — Бушмар і ня памятаў. Штосьці ён адказваў, а то маўчаў у злосьці. Толькі пасьля ўжо калі Андрэй зьнік недзе з-пад яго, ён адчуў яго гаворку. Ня ўспомніў, а адчуў. Той кідаў словамі, як каменямі. А як дагаварыўся Андрэй да свае гэтае казані, ня йшло на памяць!

— ...Ты дзе ні павернешся, усюды прыкрасьць, а можа што й большае каму зробіш. Як-бы ўвесь сьвет табе павінен быць...

— Я на чужое ня лезу, — закрычаў Бушмар, — каб адно ніхто мяне не чапаў! Не чапай мяне.

— А ты пагавары пра людзей, а не пра свой хутар! Ты-ж яго ад усяго сьвету не агародзіш! Райвыканкомавец ступіў быў раз на твой хутар? Ты нікога не чапаеш? Успомні пра ўсё, зь кім ты спаткаўся калі. А Амілі ты не забыўся яшчэ, ці ўжо й сьледу ў тваёй галаве яе не засталося? Ты хочаш прайсьці, жывучы на сьвеце проста, як сабе хочаш. Што на дарозе — павінна саступіць табе. А што ня ўсьпее саступіць, пападзецца пад твой бот. А каго-небудзь ты й сам паклічаш да сябе на момант дзеля якое-небудзь прагнасьці свае ці патрэбы. Бо й воўк-жа не цягаецца вечна адзін, без канпані. А пасьля ідзеш далей і ні на што не глядзіш, нічога пад нагамі ня прыкмячаеш.Як-бы ўсё гэта толькі дзеля цябе жыве на сьвеце...

Калі йшоў ужо Бушмар назад, словы гэтыя жылі дзесьці ў вадчуваньнях яго, але былі яны далёкія ад яго, нічога ў ім не чапалі і павялічвалі толькі ненавісьць да Андрэя. Ён адумаўся адзін на вуліцы. І што ўкалола яго тут, дык гэта толькі неспадзяванае, што стаіць ён каля тае хаты, дзе жыла калісьці, а можа й цяпер жыве Аміля. Ён рушыў назад ціха, ня гэтак, як ішоў сюды. Ён быў стомлены гэтак моцна можа першы раз на жыцьці сваім. Ні то што яму балелі ногі, ці нылі плечы, ці туманілася галава — ад дзённае дарогі, ад вячорнага ўтрапеньня — штосьці іншае было. Як у тумане, прайшоў ён тое месца паўзь лес, дзе сядзеў калісьці, чуючы радасьць сьцяны між ім і Аміляю, дзе ўглядаўся ён на коршана над лесам — ён цяпер гэта, праз колькі год, задрыжаўшы ўвесь, успомніў. Як празь імглу, бачыў ён пакарпаную плугамі дарогу пад нагамі, раскопанае глінішча на цэглу, навожанае дрэва за вёскаю, паадворваныя межы, паразьбіраную агароджу... Усё інакшае, як было навет гэтак нядаўна, калі забіралі яго ў вадседку..

Усё рушыцца і ўцякае!

Галас гайсаў перад ім. Брэх яго гулка рваў лесавую цішыню.

Прыйшоў дадому Бушмар позна. Галена карміла дзіцянё.

— Дзе ты ходзіш? — сказала яна.

Ён маўчаў.

— Чаму не адказваеш?

Як-бы ўсё йшлося тады на тое,каб выслухаць яму людзкія ўшчункі:

— Ты маўчыш, дык і я магу маўчаць. Як ты прывітаў мяне, вярнуўшыся ад такое свае бяды? Няшчасьце мінула, дык ты няма каб пачуў гэта разам са мною, зь дзіцём, якога яшчэ ня бачыў, а пачаў думаць пра ўсё, чаго ня было. Чаму ты не паверыў мне і навет чаму ты пытаў гэта? Ці гэта вінават хто, што гаспадаром ты стаў меншым? Можа-б ты мог-бы на ўсё іншае забыцца тады, а пабыць, як чалавек з сваёю сям'ёю. Усёроўна як я табе ня блізкі чалавек, а хто чужы, што табе трапіўся на дарозе...

Яна гаварыла доўга. Успамінала назнарок пра ўсё.

— ...Тут Аміля заходзіла. Мы зь ёю разгаварыліся былі доўга.

— Пра што-ж вы гаварылі гэта зь ёю?

— Менш за ўсё пра цябе. Яна парывалася ўсё на гэта, але-ж хіба малы сьвет чалавеку, што канешне думаць пра адно ўсё?... Пра ўсё мы гаварылі. Яна ўспаміпала ўсё, як гадавалася, як расла, што ў іх у хаце рабілася. А я дык не! Ніколі я нічога не ўспамінаю і не хачу ні пра што ўспамінаць. Што было, тое аджылося, а што будзе, тое важней...

(Далей будзе)

# Мае заўвагі да «Кутка мовы»

(Заканчэньне з 3-ой балоны)

рэдзіцца», «сканцэнтравацца», «булак, болка, балачына» замест «вобалака», **«адлі»** ў значэньню «тады» (у такіх выпадках, як: «Назаўтра яго збудзіў той чалавек, загадаў даць яму есьці, **адлі** павёў на працу»), «ё» побач зь «ёсьць» хаця др. Я. Ст. цяпер ужывае амаль вылучна «ё», але ня грэбуе формай «ёсьцека»), «ведамны» замест «ведамы», «перакажаць» замест «перашкаджаць», «гаварыць праз кнігу» замест «гаварыць пра кнігу», «бодка» замест «пункт», «гукаць» замест «гаварыць» «гутарыць» («гукаць» мае у нас зусім іншае значэньне, а ў значэньню, як яго ўжывае др. Я. Ст., яна ёсьць вузкім правінцыяналізмам),. «палавіца» замест «палавіна» (Мне ведамая прыказка «Грамніца — зімы палавіца», але тут «палавіца» магчыма ёсьць дзеля рымаваньня з «Грамніца») і шмат падобных.

Мы ня думаем, каб хоць адно із словаў ці формаў, паказаных у вышэйшым абзацы. у нашай літаратурнай мове прыняліся, хаця мы асабіста ня былі-б супраць гэтага, бо словы гэтыя чыста беларускія, хоць і вельмі мала пашыраныя. Але прапанаваць сяньня ўжываць гэтыя словы, як мала сярод нашага грамадзтва ведамыя або й зусім няведамыя, замест словаў з тым самым значэньнем ведамых і ўжо агульна прынятых ды ня менш за першыя чыста беларускіх, толькі выкліча няпрыхільную псыхалягічную рэакцыю ня толькі да гэтых словаў, але й да словаў, пашырэньне якіх у літаратурнай мове ёсьць канечне патрэбнае.

**2. Беларуская вымова іншамоўных словаў**

Словы іншамоўнага паходжаньня, трапляючы ў беларускую мову, прыймаюць з часам беларускія фанэтычныя й марфалягічныя формы, інакш кажучы — асымілююцца. Некаторыя формы асымілюцца хутка, іншыя значна пазьней, калі слова з гэтай формай ужо адчуваецца, як чыста беларускае, а ня чужое. І вось тут сваей моўнай практыкай і сваімі пасуленьнямі др. Я. Ст. працэс асыміляцыі словаў у некаторых выпадках намагаецца «хірургічным спосабам» прысьпешыць, а ў іншых выпадках, дзе гэты працэс натуральным шляхам ужо даканаўся, ён яго адварачвае назад да чужой вымовы. Абодвы такія мэтады пакажам на трох групах прыкладаў:

а) Беларуская літаратурная мова вызначаецца поўным аканьнем у дачыненьні да **«о»** і **«ё»**, якія бываюць толькі пад націскам, а не пад націскам пераходзяць у **«а»**, **«я»**, і то навет у словах сьвежа запазычаных з чужых моваў. Беларус. які ня мае папсутага вычуцьця беларускай мовы, будзе аўтаматычна выгаварваць: «к**а**нфэрэнцыя», «к**а**мунізм», «к**а**нструкцыя», «не**а**лягізм», «пал**я**нізм», «тэрмін**а**л**я**гічны» і пад., але др. Я. Ст. апошнімі гадамі пачаў кансэквэнтна ўжываць (ня думаю, каб вымаўляць): «к**о**нфэрэнцыя», «к**о**мунізм», «к**о**нструкцыя». «нэ**о**л**ё**гізм», «п**о**л**ё**нізм», «тэрмін**о**л**ё**гічны». Дык ці-ж ня ёсьць гэта штучным затрымліваньнем натуральнага працэсу асыміляцыі чужых словаў?

б) Цэлая група прадметнікаў іншамоўных, пераважна лацінскага паходжаньня мае канчатак **-ыя**, **-ія**: канфэрэнц**ыя**, рэдакц**ыя**, паліц**ыя**, пазыц**ыя**, але др. Я. Ст., прысьпешваючы працэс іхнай асыміляцыі, піша: канфэрэнц**а**, рэдакц**а**, паліц**а**, пазыц**а** і пад. Бясспрэчна, у беларускай мове ёсьць тэндэнцыя вымаўляць падобную групу словаў так, як іх піша др. Я. Ст. Аб гэтым сьветчаць такія словы гэтай групы, як «гурэрн**я**» або «юргін**я**», якія і ўжываюцца ўжо так, як іх суліць ужываць др. Я. Ст. Але два апошнія словы ўвайшлі ў нашую мову ўжо даўно і яны поўнасьцю засыміляваліся. Гэтак сама пісьменьнік Кузьма Чорны, які шмат рупіўся аб культуры беларускай мовы, вуснамі беларускіх сялян — гэрояў сваіх твораў ужываў гэткія формы, што і др. Я. Ст. Значыцца формы такія ня выдуманыя Кузьмом Чорным, ён іх узяў ад народу некаторых мясцовасьцяў Беларусі. Але няма ніякае патрэбы сілком прысьпешваць гэтага працэсу ў нашай літаратурнай мове, бо прыведзеныя прыклады з «губэрняй» і «**юргіняй»** ды практыка Кузьмы Чорнага яшчэ ня сьветчаць, што працэс асыміляцыі ўспомненае групы словаў у нашай літаратурнай мове пойдзе тым шляхам, як суліць др. Я. Ст.

в) Як ведама, у беларускай мове няма чужога ёй гуку **«Ф»**, які яна перадае гукамі **«п»**, **«х»**, **«хв»**. Але ў чужых словах гэты працэс адбываецца ў нашай мове таксама вельмі марудна і абыймае адно тыя словы, што ўжо адчуваюцца, як свае, а ня чужыя. Гэтак ужо агульна ўжываецца «**хв**артух», «**хв**абрыка», «**П**іліп», але: «**ф**ірма», «**ф**рыкатыўны», «**ф**антазія». У др. Я. Станкевіча і тут ёсьць тэндэнцыя прысьпешыць гэты працэс асыміляцыі. Прыкладам, ён ужывае «хорма» (а чаму ня «хворма»?) замест «форма». Праўда, слова «форма» ўжо даўно ўжываецца ў нашай мове і на замену ў ім «ф» на «х» можна было-б згадзіцца. Але тады й выводныя словы ад «форма», якія яшчэ вычуваюцца ў нашай мове, як чужыя, мы мусілі-б пісаць праз «х». Тады мусіла-б быць: «хармальны», «ахорміць», «схармаваны», «рэхарматар», «рэхорма» і г. п. Але-ж гэтага апошняга нашая літаратурная мова яшчэ сяньня ня прыйме.

Яшчэ раз падчыркваючы вялікую карысьць і патрэбу руплівасьці аб культуры й чысьціні нашае літаратурнае мовы і адзначаючы вялікія заслугі ў гэтым др. Я. Станкевіча, мы мусім адцеміць, што практычная карысьць зь ягонай працы была-б яшчэ большая, калі-б да пытаньняў мовы ён падыходзіў больш асьцярожна, больш рупіўся аб практычных выніках сваей працы й трохі больш лічыўся з псыхалягічнымі настроямі грамадзтва да ўсякага наватарства.

**Ст. Станкевіч**

# Адказы Рэдакцыі

**Спадару В. Мікалаеню, у Стамфорд (ЗША).** «Бацькаўшчына» трымаецца прынцыпу, што на сваіх бачынах павінна даваць магчымасьць выказацца кожнаму Беларусу, навет і ў тых выпадках, калі пагляды й думкі тых. што выказваюцца, ня згодныя з паглядамі й думкамі Рэдакцыі. Ня гледзячы на гэты наш прынцып. мы Вашага артыкулу «Другое ўцелаўленьне Сымона Брагі», на жаль, зьмясьціць ня можам з наступных прычынаў:

Названы Ваш артыкул меў быць адказам на зьмешчаны ў «Бацькаўшчыне» (№ 28 за 10. 7. 1955) артыкул М. Д. «Экспэрты рататарнай эры», у якім Вы й Вашыя супрацоўнікі абвінавачваліся ў хвальшывым і шкодным нам насьвятленьні некаторых фактаў зь гісторыі Беларусі ў вапрацаванай Вамі й выдадзенай Кангрэсавай Камісіяй ЗША Кэрстэна брашуры «Аб камуністычным захопе й акупацыі Беларусі». Тымчасам у Вашым палемічным артыкуле ёсьць адказы, і то неабаснаваныя або мала абаснаваныя, толькі на некаторыя драбнейшыя пастаўленыя Вам закіды, а да некаторых закідаў Вы самі тэм прызнаецёся. Затое пакрываеце поўным маўчаньнем закіды найбольш істотныя. Да такіх, між іншым, належыць ідылічнатэндэнцыйнае насьвятленьне ў брашуры палажэньня Беларусаў у даваеннай Польшчы, прадстаўленьне Беларусі ў пару ўдзельных княстваў, як правінцыі Кіява, няўспомненьне пра два найвыдатнейшыя дасягненьні беларускага народу ў мінуўшчыне, як дзейнасьць Францішка Скарыны й Літоўскі Статут, тады калі ў маленькай брашуры знайшлося месца прысьвяціць, — няма ведама зь якой нагоды — цэлыя абзацы гісторыі Ўкраіны. Вось-жа замест адказаць на гэтыя закіды, Ваш артыкул апэруе менш істотнымі мамэнты й зьяўляецца ўдзержаным ў злосным тоне ды перапоўнены словамі лаянкі, да чаго яшчэ ня прывыкла «Бацькаўшчына».

Праўда, адзін абзац у Вашым артыкуле ўсё-ж заслугоўвае на ўвагу, і таму яго гэтта прыводзім. Вы пішаце: **«Лепш пакінуць камэдыяцка-фарызэйскае фразьдзіраньне вопраткі над тым, што брашура была працэнзураваная Палякамі і Ўкраінцамі. Справа ў тым, што, ня гледзячы на вялізарныя «сукцэсы» ў Амэрыцы, гэтыя сукцэсы аказаліся аднак за малымі, каб забясьпечыцца ад цэнзуры. Ці гэта віна аўтараў?»** (Падч. нашае).

Можа й ня «віна аўтараў», што «ўслужлівыя» Палякі й Украінцы пастараліся схвальшаваць на нашую шкоду гісторыю Беларусі, затое-ж віна аўтараў і то непрабачальная, у тым, што не пастараліся яны не дапусьціць да гэтага схвальшаваньня, а калі гэтага зрабіць было немагчыма, не запратэставалі супраць гэтага нахабства перад Камісіяй Кэрстэна з аднаго боку, і публічна ў прэсе — з другога. Хіба-ж ня ў інтарэсах Камісіі Кэрстэна хвальшыва інфармаваць амэрыканскае грамадзтва аб гісторыі Беларусі. Гэта магло быць толькі ў інтарэсах тых нясумленных Палякаў і Ўкраінцаў, што цэнзуравалі нашую брашуру. Дык з усяго выглядае, што ня толькі нашыя «сукцэсы аказаліся аднак за малымі, каб забясьпечыцца ад цэнзуры», але ў ня меншай меры й «сукцэсы» Камісіі Кэрстэна «аказаліся за малымі, чымся сукцэсы... Палякаў і Ўкраінцаў?

УВАГА! УВАГА!

# Важная літаратурная навіна!

Выйшаў з друку і ўжо прадаецца найвыдатнейшы твор Якуба Коласа

## «Сымон Музыка»

Кніга папярэджаная двума ўступнымі артыкуламі аб «Сымоне Музыку» Р. Склюта й А. Бабарэкі, з партрэтам аўтара, у прыгожай каляровай вокладцы мастака Міхася Наўмовіча, на добрай паперы, і абыймаў 214+XXXII (разам 246 бачынаў) друку.

Цана кнігі толькі 3 амэрыканскія даляры, а ў усіх іншых краінах іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.

Купляць і выпісваць непасрэдна з Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне або з нашых Прадстаўніцтваў у іншых краінах.

Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ўжо канчае друк альманаху твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на эміграцыі.

## «Ля чужых берагоў»

Цана альманаху будзе пададзеная толькі пасьля яго выхаду.

### ПОШУКІ

**Адамовіч Станіслаў** шукае брата **Язэпа** (народжаны ў 1922 г. у сяле **Аселец,** Грэскага р-ну на Случчыне) і сястру **Іванову Марыню з мужам Іванам** (народжаныя абое ў 1914 г. на Случчыне). За адшуканьне ўспомненых асобаў вызначаецца **ўзнагарода ў вышыні 100 даляраў за кажную асобу.** Весткі просіцца слаць на адрас:

Mr. S. Adamowicz, 2718 W. Cortez, Chicago 22, Ill, USA

—o—

**Гуркова Кацярына** шукае **Гуркова Івана** зь вёскі Лебедзеўка, Прапанскага р-ну. Весткі просіцца слаць на адрас:

K. Hurkowa, 3824 Clark St., Montreal, Q. Canada

—o—

**Чопчыц Павел** шукае сябру **Чопчыца Пятра,** які паводля апошніх вестак павінен быць у Ангельшчыне. Весткі просіцца слаць на адрас часапісу «Палесьсе» ў Монтрэалі (Канада).

—o—

**Олейнік Сава,** які быў лясьніком у Дуба ў 1939 г., шукае жонку **Васілісу,** дачок **Веру, Ніну й Вольгу** і сына **Анатоля,** якія былі эвакуаваныя Немцамі **зь Вялікіх Чучавіч** (Лунінецкі пав.) у 1944 г. У 1947 г. усе яны былі ў ангельскай зоне Нямеччыны ў Гановэры ў лягеры ўцекачоў. Весткі просіцца слаць на адрас:

Mr. Sawa Oleiynik, 211 16th Ave So. Minneapolis 4, Minn., USA.

# Пад апекай

(Фэльетон з «Советской Белорусіі» з 2. 8. 55).

Зь першых-жа дзён працы Людміла Протас выказала нязвычайныя здольнасьці. Некаторыя непасьвечаныя ў ейныя тайніцы знаёмыя навет цьвердзілі, што ёй напэўна дапамагае нячыстая сіла. Падумайце самі: у магазын гаспадарчых тавараў Лускага сельпо Пліскага раёну прыйходзілі з базы вуздэчкі, ліхтары, падсядзёлкі, супоні, вяроўкі, а прадавала Людміла каўбасу. Праўда, ілюзіяністыя-маніпулятары часамі робяць падобныя фокусы. Аднак на сцэне паказваецца ператварэньне невялікіх па абыйму рэчаў, а Протас маніпулявала дзесяткамі кіляграмаў каўбасы, сотнямі мэтраў вяроўкі.

Чым далей, тым выразьней выяўляліся здольнасьці новай загадчыцы магазыну. Яна перасьцігнула ўсіх маніпулятараў разам узятых: глытала скрынкі цьвікоў, дзесяткі ліхтароў і чайнікаў, мяшкі цэмэнту, бочкі коламазі. Маніпулятары паказваюць сваё мастацтва публіцы. Протас наадварот — старалася рабіць свае фокусы цішком, як мага далей ад чужых вачэй. Ёй ня трэба было бурных воплескаў. Авацыі ёй замяньваў шорах грашовых білетаў, атрымоўваных у выніку фокусаў.

Толькі пасьля кажнае ўдачнае маніпуляцыі Людміла давала волю пачуцьцям: яна склікала да сябе прыяцеляў і наладжвала гучныя гулянкі. Гэта ледзь не папсавала ёй усяе справы. Пайшчыкі заўважылі, што загадчыца магазыну жыве панад магчымасьці. Яны паведамілі аб сваіх назіраньнях старшыні Пліскага райпатрэбсаюзу Дубоўскаму. Сыгнал быў прыняты. У Лускае сельпо накіраваўся таваравед райспажыўсаюзу Астаповіч з акрэсьленай мэтай — выгнаць нячыстую сілу. Ня ведаем, якія заклінаньні рабіў Астаповіч, але нячыстую сілу ён усё-ткі выкрыў: выявіў растрату на 20 тысяч рублёў і сьцьвердзіў, што свае фокусы Протас рабіла пры судзеяньні галоўнага бухгальтара сельпо Віняцкага. Заставалася толькі скласьці акт і нячыстая сіла зьгінула-б. Але д'ябал-спакусьнік устаяў супраць заклінаньняў Астаповіча. Атрымаўшы 5 тысяч рублёў за шчырую працу таваравед райспажыўсаюзу паехаў дамоў. А Протас і Віняцкі працягвалі сваю дзейнасьць.

Хутка за стараннасьць Дубоўскі павысіў Астаповіча — накіраваў яго загадчыкам Лускага сельпо, таго самага сельпо, дзе Астаповіч так бліскуча правёў рэвізію. Цяпер разам з Протас ён мог ужо дзейнічаць больш незалежна. І ён дзеіў. Нямала тавараў заблудзіла на шляху паміж складам і гандлёвымі пунктамі. А заблудзіла таму, што суправаджаў іх сам Астаповіч.

Пайшчыкі працягвалі алярмаваць райспажыўсаюз.

— Немагчыма! — абураўся Дубоўскі. — Я не пацярплю, каб у нашай сыстэме знаходзіліся зладзеі й жулікі! Я выкараню растраты. Я назначу самую аўтарытэтную камісію, якая правядзе строгую рэвізію Протас. Мы выведзем Протас на чыстую воду й пакараем!

Аўтарытэтная камісія была створана. У яе ўвайходзілі конюх сельпо Калюбоўскі і дэзынфэктар бальніцы Русачонак.

Ня будзем падрабязна апісваць дзейнасьці рэвізораў. Скажам толькі, што сябры камісіі ў сваёй новай дзялянцы абыйшліся бяз пугі, скрабачкі і неабходных дэзынфэкцыйных прэпаратаў, хоць там трэба было сьцёбаць і чысьціць, і дэзынфэкаваць. Рэвізія закончылася вельмі мірна: сябры камісіі падпісалі акт складзены самой Протас. У гэтым акце было прыпісана неіснуючых тавараў на 45.352 рублі.

Больш дакладнае азнаямленьне зь дзейнасьцяй Протас паказала, што нячыстая сіла, на якую ссылаліся сябры Протас, вельмі-ж шматлікая. Яна выступала ня толькі ў васобе Віняцкага й Астаповіча, але і ў постаці галоўнага бухгальтара райспажыўсаюзу Васіля Буслава і старшыні райспажыўсаюзу Леаніда Дубоўскага. Бязь іх, зразумела, Протас не пратрымалася-б на становішчы загадчыцы магазыну й аднаго дня.

Знала аб гэтым і сама Протас. І, дзеля справядлівасьці, трэба сказаць, што яна не заставалася ўдаўгу ў вадносінах да сваіх дабрачынцаў. Дываны, матар'ял на сукенкі, прадукты, гарэлка — усё гэта йшло на кватэры каапэратарскіх дзеячоў Пліскага раёну ў дастатковай колькасьці і задарма ад паважаючай іх Людмілы Протас. А ёй ня было чаго шкадаваць — не з свае кішэні падкармлівала начальства, а зь дзяржаўнай. Дасьць начальству на тысячу рублёў, а сабе пацягне дзесятак тысяч. Зь дзесяткаў тысяч склалася сотня, паўтары сотні, урэшце 160.400 рублёў.

У Людмілы Протас знайшліся насьлядоўнікі. У іншым магазыне таго-ж Лускага сельпо загадчыца Іраіда Жынь растраціла 30 тысяч рублёў. Ды зрэшты, чаму й ня траціць, калі каапэратыўнае начальства нагэтулькі памяркоўнае й даступлівае! Нядаўна была выяўлена буйная растрата ў магазыне, які абслугоўвае работнікаў саўгасу «Яблынька». гоўвае работнікаў наўгасу «Яблынька». наважанага раённым аддзелам Бароўка. Дзіўнае здарэньне: жонка крадзе грамадзкую маемасьць, а муж заклікаены ахоўваць сацыялістычную собскасьць, быццам-бы нічога не заўважае, нічога ня ведае. Відаць, моцна зажмурываўся Бароўка, каб ня бачыць хітрыкаў свае жонкі.

Як сьветчыць шчэдрынскі летапісец, у месьце Глупаве сталася такое цуда: адзін начальнік плюнуў свайму падпарадкаванаму ў вочы і той пачаў бачыць. У Плісе такога цуду ня здарылася: ня было каму зрабіць гэтую ня мудрую апэрацыю з Бароўкам і Дубоўскім. Сьледчы Пліскага раённага аддзелу тав. Тукіш высьцерагаецца тварыць цуды: хто яго ведае, каб-жа самому ня прышлося наразіцца на плявок: і ягоная-ж жонка працуе ў магазыне Сьвільскага сельпо.

А мо памочнік пракурора раёну тав. Ерашэня адважыўся-б вылячыць сьляпых? Ды дзе там! Ягоная жонка загадвае культмагам, брат — промтаварнай базай райспажыўсаюзу.

Ну, а пракурор тав. Конышаў? Сьмялейшага за яго няма ў раёне.
Яно то так, але-ж і ў яго дух займае, калі гутарка пачынаецца пра гандлёвых працаўнікоў: ягоная жонка загадвае гаспадарчым магазынам Сьвільскага сельпо.

У такім-жа становішчы апынуліся й некаторыя іншыя кіруючыя працаўнікі раёну. Дубоўскі ведаў, каму даручыць гандлёвую сетку, каго ўзяць сабе за апякуноў. Пры наяўнасьці моцных пратэктараў поўнасьцяй можна выкарыстаць канюхоў і дэзынфэктараў у якасьці рэвізораў: конюх ня выдасьць, пракурор ня зьесьць.

**І. Новікаў**

УВАГА! УВАГА!

**НОВЫ ЧАСАПІС**

Выйшаў з друку і ўжо прадаецца літаратурна-мастацкі часапіс

## «Палесьсе»

Замаўляць на адрас:

„PALESSIE", 4345 St. Urbain St., Montreal, Q., CANADA

Цана 50 цэнтаў

**ПЛІТКІ ХОРУ «ЖАЛЕЙКА»**

Найграныя і ўжо прадаюцца пліткі беларускага мужчынскага хору «Жалейка» з Монтрэалю (Канада) пад кіраўніцтвам І. Казачка. Найграныя наступныя песьні:

1. **У садзе гуляла** — хор;
   **Драўляны дом** (раманс) — солё Паўліка.
2. **Марш беларускіх партызанаў** — хор;
   **На выгнаньні** — хор.

Цана аднае плітки — 1 даляр. Замаўляць на адрас часапісу «Палесьсе» ў Монтрэалі (Канада).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**



### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah, N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne, Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčečka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).
**Section Bielorussiene de C. F. T. C.** 26, Rue de Montholon, Paris 9.

**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.